


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

23 лістапада 2001 года
№ 47 (344)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна

### Дояць кароў мужчыны

**МЯДЗЕЛ.** Цікавы выпадак адбыўся падчас ушанавання перадавікоў сельскай гаспадаркі раёна ў мінулую суботу. Калі ў цэнтр залы запрасілі лепшых аператараў машыннага даення, то выйшлі... трое мужыкоў. **Аляксандр Тамбальскі, Яўген Русак, Мікалай Кузняцоў** нашмат апярэдзілі ўсіх даярак. Прытым усе яны – з розных гаспадарак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Пачалася вакцынацыя

**ВАЛОЖЫН.** У панядзелак пачалася вакцынацыя жыхароў раёна супраць грыпу. У лячэбна-прафілактычныя ўстановы раёна паступіла 2 тысячы доз вакцыны.

Медыкі прагназуюць пік грыпу на люты, але лепш прышчапіцца ў лістападзе, бо вірус можна падхапіць у вялікіх гарадах раней.

Летась было прышчэплена каля 1900 чалавек.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Рэйсавы аўтобус збіў чалавека

**МАЛАДЗЕЧНА.** 14 лістапада ў 19 гадзін рэйсавы аўтобус Валожын-Маладзечна збіў чалавека. Ён памер у рэанімацыі.

Здарэнне адбылося ля Вязаўца. Мясцовы жыхар хацеў перайсці праезную частку на неасветленым участку дарогі. Праверка гэтага факта паказала, што віны вадзіцеля аўтобуса няма.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Шалікі для балельшчыкаў

**СМАРГОНЬ.** Больш за тысячу шалікаў з эмблемай футбольнага клуба "Смаргонь" шыюць на мінскай швейнай фабрыцы. Іх будуць прадаваць на стадыёне перад матчамі ФК "Смаргонь". Футбольны клуб "Смаргонь" стане другой камандай рэгіёна пасля ФК "Маладзечна-2000", якая будзе мець шалікі са сваёй сімволікай.

**Тарэса КУМІШЧА.**

### Трагедыя ля Вішнева

**ВІЛЕЙКА.** У мінулую нядзелю на Вішнеўскім возеры патанулі двое мінчан. Аднаго знайшлі назаўтра.

Яны адправіліся ўвечары катацца на маторнай лодцы. На бераг не вярнуліся. Назаўтра труп аднаго з няшчасных удалося знайсці. Яму было 37 гадоў, прадпрымальнік. Пошукі другога тапельца працягваюцца.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Фільм пра алтар

**МЯДЗЕЛ.** Зачасцілі ў раён тэлевізіёншчыкі. На гэты раз здымалі ў Будслаўскім касцёле старадаўні алтар, які быў створаны ў 1643 годзе. Гэта быў адзін з першых алтароў у Еўропе, які пабудавалі ў перспектыве. Лічыцца, што яго кампазіцыя не мае аналагаў у сакральнай архітэктуры нашай і суседніх краін. Фільм абяцаюць паказаць па Беларускім тэлебачанні ў канцы года.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Выратаваў дваіх

**ВІЛЕЙКА.** Начальнік каравула пажарна-выратавальнай часці **Дзяніс Малееў** за 9 дзён выратаваў з агню двух чалавек.

Першы выпадак здарыўся 13 лістапада ў Ілі, другі – 22 лістапада – у Вілейцы. Абодва разы ўзнікала загаранне ад цыгарэты. Гаспадары былі ў непрытомнасці. Пажарны паспяваў іх своечасова вынесці з кватэры. Бо, каб наступіў смяротны ацёк лёгкіх, дастаткова чалавеку дастаткова пабыць з задымленым памяшканні 6 хвілін.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 23 лістапада**

**Мінск**
-4 – -2°С (уначы)
0 – 2°С (удзень)



**Вільня**
-2°С (уначы)
3°С (удзень)



**Нядзеля, 24 лістапада**

**Мінск**
-6 – -3°С (уначы)
-2 – -1°С (удзень)



**Вільня**
-7°С (уначы)
0°С (удзень)



# Гімназісты – лепшыя інспектары

**МАЛАДЗЕЧНА. 21 лістапада ўпершыню прайшоў агульнагарадскі злёт атрадаў юных інспектараў дарожнага руху. Усе 13 агульнаадукацыйных школ спаборнічалі за права быць лепшай у горадзе.**

Было 8 конкурсаў, у якіх прапанавалася паказаць разнастайныя веды і навыкі. Каб перамагчы, трэба было выдатна ведаць правілы дарожнага руху, умець лепш за іншых аказаць першую медыцынскую дапамогу, праехаць на веласіпедзе па звілістай траекторыі.

Бралі ўдзел школьнікі ўсіх узростаў. Самыя малодшыя не жадалі проста так саступаць старэйшым. Перамагла беларуская гімназія, якая больш за іншых папрацавала не толькі на конкурсных пляцоўках, але і над уласным іміджам. Вучні гімназіі прымусілі пра сябе гаварыць ужо на адкрыцці спаборніцтваў, калі бездакорна і па-ваенным зладжана прадставілі сваю каманду.

Зала, у якой праходзілі спаборніцтвы, была падобная на мурашнік. Адна палова залы была конкурсная, а другая – трэніровачная: адныя насіліся на веласіпедах, другія нешта рамантавалі, трэція проста знаёміліся. Магчыма, некаторыя знайшлі новых сяброў.

Намеснік дырэктара школы-пераможцы **Тацияна Мурычына** сказала:

– Я шчаслівая разам з вучнямі. Яны надзейныя рабяты і заўсёды дапамогуць. Сёння мы напісалі алімпіяду па нямецкай мове і тут перамаглі.

За беларускай гімназіяй у агульнакамандным заліку былі каманды СШ №9 і СШ №5. Усе атрымалі ганаровыя граматы і па торце на каманду. А беларуская гімназія цэпер рыхтуецца да занальных спаборніцтваў, якія пройдуць у маі 2002 года.

Вось што гаварылі некаторыя ўдзельнікі і госці спаборніцтваў.

Вучаніца СШ №1 **Віка Іванчык**:

– Мне спадабаўся гэты злёт, асабліва конкурс агітбрыгад. Там можна спяваць, танцаваць, паказаць сваё іншыя здольнасці.

У гэтым конкурсе выступілі Земфіра, Філіп Кіркораў, Шура, "Залатое кальцо".

Магчымыя небяспечныя дарожныя сітуацыі былі паказаныя ў музыкальных сцэнках пад агульнай ідэяй: "Ведай правілы дарожна-транспартнага руху, як азбуку".

Начальнік ДАІ Маладзечанскага ГРАУС **Уладзімір Балкоўскі**:

– Часцяком нашы дзеці на дарогах няўважлівыя. Сёлета ўзрасла колькасць здарэнняў з іх удзелам. Пешахода трэба выхоўваць са школы.



Вучань СШ №4 Іван Карповіч дэманструе фігурную язду.
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Праз секунду Валерыя Калачык з СШ №4 паспяхова міне варотцы з фішак.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Вучні СШ №8 рыхтуюць свой веласіпед перад конкурсным заездам.

Вучні 9 "Д" класа СШ №8 радаваліся, што не трэба ісці ў школу:

– Гэта класна! Наша настаўніца па гісторыі **Іна Ігнатовіч** пабяцала паставіць "пяцёркі". Яшчэ хацелася б, каб работнікі ДАІ дапамаглі здаць экзамены на ваджэнне матацыкла.

Галоўны суддзя **Анатоль Кацельнікаў**:

– Такія мерапрыемствы дапамагаюць знізіць дзіцячы траўматызм. У лютым будзем праводзіць віктарыны па правілах дарожнага руху ва ўсіх школах. Да мая плануем пабудаваць спецыяльны вучэбны гарадок.

Агульнагарадскія спаборніцтвы плануецца праводзіць штогод.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

**Выніковая табліца першага агульнагарадскога злёту юных інспектараў дарожнага руху**

| Школы | Конкурсы 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | Агульнакамандное месца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| СШ №1 | 5 | 7 | 2 | 1 | 7 | 1 | 2 | 3 | 4 |
| СШ №2 | 3 | 12 | 10 | 12 | 7 | 1 | 10 | 4 | 12 |
| СШ №3 | 5 | 8 | 9 | 9 | 6 | 3 | 7 | 1 | 7 |
| СШ №4 | 3 | 10 | 7 | 13 | 5 | 6 | 7 | 2 | 9–10 |
| СШ №5 | 2 | 6 | 5 | 4 | 4 | 5 | 6 | 2 | 3 |
| СШ №6 | 3 | 4 | 3 | 10 | 5 | 1 | 8 | 4 | 6 |
| СШ №7 | 5 | 2 | 8 | 6 | 3 | 7 | 4 | 1 | 5 |
| СШ №8 | 4 | 9 | 4 | 2 | 8 | 8 | 6 | 4 | 8 |
| СШ №9 | 1 | 1 | 1 | 5 | 3 | 2 | 5 | 4 | 2 |
| Гімназія | 2 | 5 | 6 | 7 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| СШ №11 | 4 | 11 | 12 | 8 | 5 | 9 | 7 | 5 | 13 |
| СШ №12 | 5 | 3 | 11 | 11 | 8 | 6 | 3 | 3 | 11 |
| САШМ | 3 | 13 | 13 | 3 | 2 | 4 | 9 | 4 | 9–10 |

**Заўвагі: конкурс №1 – тэарэтычныя веды па правілах дарожнага руху; №2 – практычная язда на веласіпедзе; №3 – фігурная язда на веласіпедзе; №4 – зборка і разборка веласіпеда; №5 – аказанне першай медыцынскай дапамогі; №6 – конкурс агітбрыгад; №7 – агляд пастраення; №8 – "Юны прапагандыст".**



**Касцёл святога Юзафа: этапы гісторыі**

**5 лістапада 1990 года** – першая заява ад вернікаў старшыні гарвыканкома з просьбай аб будаўніцтве касцёла.

**4 чэрвеня 1991 года** – першы сход каталікоў, стварэнне парафіі, утварэнне Касцельнай рады.

**17 ліпеня 1991 года** – першая ўрачыстая імша, якая прайшла ў Доме культуры чыгуначнікаў.

**29 верасня 1991 года** – гарвыканкам сваім рашэннем адвёў зямельны ўчастак пад будаўніцтва касцёла.

**29 лістапада 1991 года** – прыняты статут рымска-каталіцкага касцёла святога Юзафа.

**2 снежня 1991 года** – камісія гарвыканкома выбрала пляцоўку, дзе будзе пабудаваны касцёл.

**17 мая 1997 года** – урачыстае адкрыццё касцёла.

**Праграма святкавання 10-годдзя адраджэння касцёла** (24–25 лістапада)

**24 лістапада, 18-00,** канцэрт сімфанічнага аркестра музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага

**25 лістапада, 9-30,** канцэрт парафіяльнага хору

**10-30** урачыстая Святая Імша, якую правядзе ксёндз-біскуп Кірыл Клімовіч

■ ДАТЫ

# Юбілей касцёла святога Юзафа

**МАЛАДЗЕЧНА. На выхадныя каталікі горада і раёна будуць святкаваць 10-годдзе з дня ўзнаўлення Маладзечанскага касцёла святога Юзафа.**

Мы папрасілі расказаць пра падзеі, што адбываліся напачатку 90-х гадоў, непасрэдных удзельнікаў.

Успамінае арганістка **Ірына Бажко:**

– Каталікі горада і раёна ездзілі на службы ў Красненскі касцёл. Штуршком для таго, каб пабудаваць касцёл у горадзе, паслужыў артыкул у адной з рэспубліканскіх газет "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных поглядаў".

Тагачасны ксёндз у Красным **Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі** параіў звярнуцца да старшыні гарвыканкома **Генадзя Карпенкі**. Гэтую ідэю мы абмяркоўвалі ў электрычках, калі ездзілі ў касцёл і назад.

Мая маці **Малгажата Козел** была па жыцці актыўная жанчына. Яна – адна з тых, хто пісаў заяву ў выканком ад імя вернікаў. Наколькі я памятаю, Генадзь Карпенка падтрымліваў ідэю будаўніцтва касцёла. Ён і даў "дабро", калі ўбачыў, што гэтага жадаюць сотні гараджан.

Ірына Бажко мае музычную адукацыю і цяпер праводзіць музычнае суправаджэнне службаў. Ролю аргана выконвае сінтэзатар.

– Я скончыла музычнае вучылішча па класе баяна. Калі ўпершыню была ў касцёле, мне таксама спадабалася арганная музыка.

Калі быў свабодны час, спрабавала іграць на аргане ў Красненскім касцёле. У пачатку 80-х гадоў прапанавалі папрацаваць у Пінску, бо там арганіст захварэў. Год ад'ездзіла туды. Потым тры гады іграла ў Мядзельскім раёне, прайшла курсы арганістаў у Польшчы.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Арганістка касцёла святога Юзафа Ірына Бажко.**

Цяпер працую ў Маладзечне. Падрастае і добрая змена. За арганіста можа быць і дачка Ірыны, якая прыязджае сюды падчас канікулаў. Дзіцячыя і маладзёжныя службы вядзе навучэнка музвучылішча **Аня Яфрэмава**.

Касцёл святога Юзафа мае блізнюка ў Польшчы. Расказвае галоўны інжынер праекта касцёла **Тадэвуш Акунevіч**:

– Калі стала вядома, што ў Маладзечне пабудуюць касцёл, то сабраўся савет у гарадскім аддзеле архітэктуры. Вырашалі, па якім праекце будаваць касцёл. Сярод іншых быў макет і здымкі касцёла ў мястэчку Грудак ля польскага горада Торунь. Вырашылі пабудаваць падобны. У нас быў толькі знешні выгляд касцёла, а ўнутраныя канструкцыі мы распрацоўвалі самі.

Шмат зрабіў для касцёла Генадзь Карпенка. На будоўлю ён заходзіў па 2–3 разы на тыдзень. Знаходзіў спонсараў з Германіі, Амерыкі. Актыўна дапамагалі гарадскія прадпрыемствы. У суме гэта склала 90% ад кошту будаўніцтва касцёла. Маладзечанскія вернікі сабралі 10%.

Наступны старшыня гарвыканкома **Станіслаў Татарыновіч** таксама цікавіўся будоўляй, але ўсё ж не так, як Карпенка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Гарадскі сход БНФ «Адраджэнне»

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 лістапада адбыўся гарадскі сход грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэнне" і рэгіянальны сход партыі БНФ.**

Акрамя гаспадароў, удзельнічалі прадстаўнікі Валожынскай, Вілейскай і Мядзельскай арганізацый фронту.

На пасяджэнні разгледзілі палітычную сітуацыю ў краіне і план далейшай дзейнасці партыі і руху. Напрыканцы абралі дэлегатаў на чарговы з'езд, які адбудзецца 15–16 снежня ў Мінску.

Удзел у сходзе бралі і выступілі з дакладамі намеснік старшыні партыі БНФ **Алесь Бяляцкі** і старшыня яе Мінскай абласной арганізацыі **Валянцін Баранаў**.

**Алесь ЦАДКО.**

## Польскія студэнты вывучалі магію

**МЯДЗЕЛ. Амаль тыдзень гасцявалі тут студэнты факультэта антрапалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.**

Захацелі яны пажыць у людзей – уладкавалі іх па хатах у вёсцы Міціненты. Прыём ім спадабаўся. Хадзілі студэнты і па суседніх вёсках, гутарылі з людзьмі. Цікавіліся рознай магіяй, гісторыямі пра шаптуноў, чараўнікоў.

А бабулькам студэнты таксама спадабаліся. Гавораць, вельмі культурныя, толькі «дзеньkue і дзеньkue» на кожным кроку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ВЫСТАЎКІ

## Выстаўка твораў сям'і Піразевых



**Аляксандр і Алена Піразевы – каваль і паэтка...** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у Мінскім абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстаўка твораў Аляксандра і Алены Піразевых.**

Муж і жонка Піразевы жывуць у Даўгінаве, на Вілейшчыне. Аляксандр займаецца кавальнем. На выстаўцы прадстаўленыя і дэкаратыўныя вырабы, і зброя. Алена вышывае. Хаця яна ўмее добра маляваць і піша вершы. Некаторыя з іх яна прачытала на адкрыцці выстаўкі. Вышываныя палотны на выстаўцы трох напрамкаў: гістарычныя, рэлігійныя і свецкія. Выстаўка будзе доўжыцца да 24 снежня.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**Вышыўка Алены Піразевай "Думкі князя Уладзіміра перад хрышчэннем Русі".**

■ ТЭАТР

## «Чорная нявеста»



Фота з архіва тэатра.

**Акцёры Мінскага абласнога драматычнага тэатра Ірына Камышава і Яўген Іўковіч у спектаклі "Чорная нявеста".**

Меладрама "Чорная нявеста па п'есе французскага драматурга Жана Ануя – адзін з лепшых спектакляў Мінскага абласнога драматычнага тэатра, які быў высока ацэнены журы на тэатральным фестывалі "Маладзечанская сакавіца-95".

Падзеі адбываюцца ў правінцыйным гарадку на беразе мора. Напярэдадні свайго вяселля Юлія з жаніхом Фрэдэрыкам і будучай свякроўю наведвае бацькоўскі дом. Там здараецца непрадбачанае: паміж Фрэдэрыкам і Жанэтай (сястрой Юліі) нечакана ўспыхвае моцнае неадольнае пачуццё. Што гэта? Светлае і рамантычнае каханне ці, можа, д'ябальская страсць, якой наканаваная трагічная развязка?

Рэжысёр – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь **Мікалай Мацкевіч**. Прэм'ера адбылася ў 1994 годзе. Спектакль аднаўлёны ў 2001 годзе.

**Віктар МІКАЛАЕЎ.**

■ МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ

## Дом па Паркавай засяляць у снежні

**МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні пачалася ўнутраная аддзелка дома па вуліцы Паркавай, у якім здарыўся пажар вясной.**

Рабочыя ААТ "Будаўнік-197" у пачатку лістапада завяршылі вонкавыя работы. Задача да канца тыдня – абшыць гіпсакардоннымі плітамі 4 кватэры (гэта палова дома). Потым на будоўлю прыйдуць тынкоўшчыкі, і можна будзе засяляцца.

Планууецца справіць наваселле ў снежні. Раней намеснік начальніка Мінскай дыстанцыі грамадзянскіх збудаванняў **Ганна Жаўнерчык** называла датай засялення 10 снежня.

На гэтым тыдні будуць тынкаваць сцены і клеіць шпалеры ў кватэрах. Ацяпленне ўжо ёсць, праводзяць ваду. Ацяпляюць гарышча. Усе будаўнічыя работы праводзяцца за кошт беларускай чыгункі.

– Могуць быць розныя непрадбачаныя абставіны: напрыклад, затрымка ў аплаце за будаўнічыя матэрыялы. Але, спадзяюся, да 1 снежня як мінімум палову дома мы зробім, – сказала Г. Жаўнерчык.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Маладзечна. Вуліца Паркавая. Да засялення гэтага дома застаецца некалькі тыдняў.**

■ ДНІ

23 лістапада – **130 год з дня нараджэння У. Тэраўскага** (1871–1938), беларускага дырыжора, кампазітара і фалькларыста.

**70 год з дня нараджэння Г. Маркінай** (1931–1985), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

**100 год з дня нараджэння А. Янкоўскага** (1901–1982), збіральніка беларускага фальклору.

28 лістапада – **65 год з дня нараджэння** (1936) **М. Захарэвіч**, беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.




## Падпіска на 2002 год

Сябры! Пачалася падпіска на "РГ" на першае паўгоддзе. Індывідуальная падпіска на 1 месяц каштуе 1035 рублёў, ведамасная – 4191 рубель.

**Заставайцеся з намі ва ўсе часы!**

■ ЭКАНОМІКА

## Горш, чым летась

**АСТРАВЕЦ. Амаль па ўсіх паказчыках эканамічнага развіцця па выніках 9 месяцаў 2001 года раён працуе горш, чым летась.**

Па звестках з раённага аддзела статыстыкі, аб'ём прамысловай вытворчасці знізіўся ў параўнанні з леташнім на 2,5%. Пяць прамысловых прадпрыемстваў з сямі знізілі аб'ём вытворчасці.

Дапусцілі страты 32,7% усіх прадпрыемстваў раёна.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Журналісты цікавіліся падтрымкай бізнесу

**МЯДЗЕЛ. Дырэктар Свірскага сельскагаспадарчага ліцэя Эдуард Вайцяховіч удзельнічаў у Мінску, у прадстаўніцтве ААН, у прэс-канферэнцыі.**

Выступаў ён у якасці прэзідэнта Беларускага саюза бізнес-інкубатараў, цэнтраў падтрымкі прадпрымальніцтва, інавацыйных цэнтраў і тэхналагічных паркаў. Расказваў ён пра планы саюза, пра мерапрыемствы па падтрымцы малога і сярэдняга бізнесу. Але асноўную ўвагу звярнуў на развіццё прадпрымальніцтва ў сельскагаспадарчым рэгіёне. Расказваў на мясцовым вопыце, бо ўлетку пры ліцэі быў створаны цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

## Гарантыю на абутак дае толькі вытворца

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхарка горада купіла ў прыватным магазіне зімовы абутак на высокім абцасе.**

Прадпрымальнік выпісаў чэк і даў гарантыю на месяц. Але ўнізе прыпісаў: "На абцас гарантыі няма". Праз некалькі дзён абцас зламаўся. Жанчына напісала заяву ў Маладзечанскую арганізацыю абароны спажыўцоў.

Старшыня арганізацыі **Уладзімір Клешч** тлумачыць, што гарантыя на абутак вызначаецца нарматыўна-тэхнічнай дакументацыяй, і яе дае вытворца. Прытым гарантыя распаўсюджваецца на ўвесь тавар. Таму пасрэднік не меў права самастойна вызначаць тэрмін гарантыі ці яе адсутнасць на тавар або яго частку.

Абутак накіраваны на экспертызу ў Беларускую гандлёва-прамысловую палату. Калі высвятліцца, што абцас зламаўся з-за таго, што быў вытворчы брак, прадпрымальнік кампенсуе жанчыне кошт абутку, выдаткі на даставку абутку ў Мінск і кошт экспертызы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Па шэсць «квадратаў» на брата

**МАЛАДЗЕЧНА. На наступным тыдні вырашыцца пытанне па тэрмінах будаўніцтва месцаў для гандлю кілбаснымі вырабамі. Кожнае месца (6 м²) будзе адасобленае.**

Восенню адкрыўся рыбны павільён. Сёння там усе 16 месцаў выкупленыя, але ў аўторак працавала 11. Кіёскі, у якіх раней прадавалі рыбу, чакаюць сваёй чаргі на вываз.

Як расказаў дырэктар рынку **Аляксей Увараў**, ёсць планы па добраўпарадкаванні рынку. Але з гэтым, як з "птушыным рынкам", пакуль нічога не вырашана з-за адсутнасці фінансавання.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Маладзечна, калгасны рынак. Рыбай цяпер гандлююць з захаваннем усіх санітарных нормаў.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

## Хваляванне ўзмацняецца

Урад і Нацыянальны банк адрапартавалі Міжнароднаму валютнаму фонду аб увядзенні і захаванні ў краіне адзінага рыначнага валютнага курсу і свабоднай канверсуемасці нацыянальнай валюты. Карацей, улады лічаць, што сітуацыя на валютным рынку пад кантролем, тэмпы дэвальвацыі ўтрымліваюцца банкам у планавых межах з давядзеннем курсу 1600 рублёў за долар не раней пачатку наступнага года. Аднак хваляванне на валютным рынку ўзмацняецца: выплаты да канца года ўзраслі і ціснуць на фінансавы рынак, што прыводзіць да павелічэння попыту на валюту. Каціроўкі на ўзроўні 1545 рублёў за долар ужо не рэдкасць, у гандлёвых фірмах пры безнаяўных разліках ужо даўно прымяняюць лічбу 1600. У гэтых умовах улады спрабуюць узмацніць прывабнасць для насельніцтва рублёвых грашовых дэпазітаў, давёўшы стаўку да 65–70% гадавых. Усе намаганні стрымаць курс адміністрацыйным ціскам на банкі, накшталт змяншэння розніцы паміж курсамі куплі і продажу валюты да 20 рублёў, наўрад ці акажуць станоўчае дзеянне. Прадаваць банкам няма чаго, яны могуць прадаць толькі тое, што купілі. А купляць няма чаго, насельніцтва не спяшаецца развітвацца з зялёнымі купюрамі менавіта ў банках. На дапамогу, як звычайна, прыходзяць валютчыкі.

У бліжэйшыя тыдні ўладам давядзецца праводзіць яшчэ больш жорсткую манетарную палітыку. Але для выканання бюджэту, па прызнанні самога кіраўніка кабінета, звычайных мер па выбіванні падаткаў ужо недастаткова. Сярод мер, здольных паменшыць ціск дэфіцыту бюджэту і неагучаных прэм'ерам, магчымыя толькі дзве: рэзкая дэвальвацыя нацыянальнай валюты або адпусканне на свабоду цэнаў. Яны аднолькава непапулярныя ў народзе, і ў год прэзідэнцкіх выбараў да іх не прыбегнуць, а нявырашаныя праблемы пяройдуць на год наступны, каб да веснавой пасяўной выбухнуць сапраўдным фінансавым і валютным крызісам. Але гэта будзе потым, не цяпер. Ну проста нельга цяпер адпускаць цэны: тады зарплаты ў 100 долараў не будзе хапаць нават на вараную кілбасу. Нельга і рубель аслабіць, бо цвёрдасць нацыянальнай валюты падносіцца як ці не адзіная перамога адміністрацыі.

Прагноз жа на кароткатэрміновы перыяд аптымістычны: ажыятаж на валюту часовы, курс падскочыць на 3–5 працэнтаў у месяц і рост затармозіцца. Аднак пры такім раскладзе і трымаць зберажэнні ў рублях сэнсу не мае, іх з'ядае інфляцыя, а працэнтаў не хапае ўжо, каб было на куплю валюты на суму ўкладу. Але банкі, як звычайна, пудраць мазгі грамадзянам, уводзячы ўсялякія мудрагелістыя ўклады, дэпазіты. А чалавек ужо граматны. Чым менш вады і больш даходу – тым лепш. Да канца года, як звычайна, з'яўляюцца ўсялякія калядныя і навагоднія ўклады, менавіта па іх банкі выплачваюць самыя высокія працэнты. Шампанскае за рызыку да Новага года будзе вельмі дарэчы.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

## Без каментарыяў

♦ З новага года расійскае піва падаражэе, таму што пачнецца ліцэнзаванне яго ўвозу. Сёння 9 з 10 бутэлек расійскага піва – кантрабандныя. Спяшайцеся "накачацца" цяпер.

♦ Па паведамленні прэс-цэнтра дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі з 21 лістапада да канца наступнага года польскімі ўладамі будзе закрыты пункт пропуску Кузніца – Брузгі. Гэта робіцца для пераабсталявання камунікацыйных шляхоў. Аднак закрыццё гэтага пагранпераходу ўскладніць перасячэнне мяжы для многіх: праз дадзены пункт, у сярэднім, за суткі праходзіць 2,5 тысячы машын і больш за 7000 чалавек. Цяпер давядзецца ісці іншым шляхам.

♦ Любы ўладальнік іншамаркі цяпер за 250 марак зможа ўстанавіць сапраўднае мінулае свайго аўтамабіля (да 10% іншамарак на дарогах СНД калісьці былі ўкрадзеныя). Калі ж машына акажацца не "чыстай", то яшчэ за 1500–2000 марак страхавыя кампаніі падрыхтуюць на яе сапраўдныя дакументы. Дадзеныя пра аўтамабіль сціраюцца з камп'ютэрнай базы Інтэрпола і эксплуатаваць яго можна без апаскі. Каб не купіць "ката ў мяшку", лепш машыну агледзець і пры неабходнасці легалізаваць.

♦ Пастановай Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі зацверджаная адзіная форма рэгістрацыйнага пасведчання на дамашніх сабак і кошак і форма жэтона. Згодна з гэтым дакументам, уладальнікі жывёл будуць абавязаныя аформіць на іх пасведчанні з асноўнымі адрознымі прыметамі і жэтон да ашыйніка з указаннем дадзеных пра гаспадароў і іх месца жыхарства. Прапісваць пачынаюць і чатырохногіх сяброў.

♦ Не застаюцца без работы следчыя і суды. Да штрафу ў суме 1,5 мільёна рублёў прыгаварылі аднаго грамадзяніна, які меў у двух банках французскага горада Страсбурга бягучыя і тэрміновыя рахункі на сябе і сваю жонку. 442 тысячы франкаў (каля 70 тысяч долараў), што паступілі на гэтыя рахункі, не былі прадэкларааныя, чым дзяржаве быў нанесены ўрон у выглядзе незаплачаных падаткаў у асабліва буйным памеры – 8,5 мільёна рублёў, які быў пагашаны ў ходзе папярэдняга следства.

♦ Падобна, сквапнасць загубіла былога намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі. Карыстаючыся службовай пасадай і злоўжываючы ўладай, ён неаднаразова атрымліваў хабар за станоўчае садзеянне ў вырашэнні пытанняў па вызваленні ад штрафаў некаторых камерцыйных фірмаў. У якасці ўзнагароджання ён атрымаў па адным эпізодзе 6200 долараў і патрабаваў перадачы праз пасрэдніка яшчэ 6000, за што і папаліўся.

♦ Вядзецца следства аб хабарніцтве ў адносінах галоўнага бухгалтара адной з фірмаў сувязі. Атрыманыя ёю спартыўны касцюм, бясплатная паездка на чэмпіянат Еўропы ў Чэхію і 200 долараў камандзіровачных ад старшага трэнера спартшколы следчыя спрабуюць прадставіць хабарам за станоўчае вырашэнне пытання па атрыманні спонсарскай дапамогі. Бясплатнага сыру не бывае.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 15 лістапада | 22 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1523,00 руб. | 1528,00 руб. |
| Нямецкая марка | 684,71 руб. | 687,23 руб. |
| Літ | 380,75 руб. | 382,11 руб. |
| Расійскі рубель | 51,24 руб. | 51,10 руб. |
| Злоты | 371,28 руб. | 373,09 руб. |
| ЕЎРА | 1339,17 руб. | 1344,11 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1530 – 1540 руб. | 1540 – 1560 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 14.11 | 21.11 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7700 | 7700 |
| Сасіскі, 1 кг | 3180 | 3280 |
| Селядзец, 1 кг | 1870 | 1950 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 430 | 430 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1250 | 1250 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 790 | 850 |
| Маянэз, 200 г | 280 | 300 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1700 | 1700 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | 530 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 470 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 300 | 350 |
| Капуста, 1 кг | 160 | 150 |
| Лімоны, 1 кг | 1200 | 1100 |
| Апельсіны, 1 кг | 1200 | 1000 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1300 |
| Масла, 1 кг | 2600 | 2800 |
| Тварог, 1 кг | 1200 | 1400 |
| Малако, 1,5 л | 450 | 500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 1600 | 1800 |
| Морква, 1 кг | 300 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | 500 |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## 15 смерцяў на чыгунцы

**З 15 кастрычніка па 15 лістапада Маладзечанскі аддзел унутраных спраў на транспарце праводзіў комплекс мерапрыемстваў у рамках агульнарэспубліканскага месячніка "Чыгуначным магістралям – грамадскую бяспеку".**

З пачатку года зарэгістравана 23 няшчасныя выпадкі, у выніку якіх загінула 15 чалавек. Асноўнай прычынай з'яўляецца асабістая неасцярожнасць грамадзян, асабліва ў спалучэнні са з'яўленнем у нецвярозым выглядзе (13 чалавек з 22 пацярпелых знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення). 4 чалавекі абралі смерць пад коламі цягніка як спосаб самазабойства.

**Вадзім КУЛЯШЭЎСКІ, начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага АУСТ.**

## Давялося страляць

**МАЛАДЗЕЧНА. 16 лістапада ў раёне вуліцы Гарадоцкай вадзіцель машыны "Фольксваген-Джэта" не спыніўся па патрабаванні работнікаў ДАІ.**

Давялося распачаць пагоню па дарозе "Маладзечна-Хажова-Ермакі. Пасля таго, як міліцыянер зрабіў папераджальны стрэл, машына спынілася. Малады чалавек, які быў за рулём, не меў вадзіцельскага пасведчання. Машына зарэгістраваная на яго бацьку.

## З'ездзіў за цыгарэтамі

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулы чацвер каля 23-30 дваццацігадовы вадзіцель, які быў п'яны, не справіўся з кіраваннем і наехаў на дрэва і металічную агароджу.**

Машына была не ягоная, яна аднаўленню не падлягае. Вадзіцель трапіў у бальніцу. У тлумачэнні ён напісаў, што ўзяў машыну, каб паехаць за цыгарэтамі.

## Расшырыў могілкі

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 лістапада 37-гадовы жыхар вёскі Гаеўцы паехаў на сваім трактары МТЗ-50 да цесця.**

Вадзіцель быў пазбаўлены правоў на кіраванне трактарам. Ля вёскі Аборак ён не справіўся з кіраваннем і знес плот на вясковых могілках.

У тлумачэнні вадзіцель напісаў, што перад выездам выпіў 200–300 грамаў гарэлкі.

**Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ маладзечанскага ГРАУС.**

 



# Чаму закрылі «Пагоню»?

## Хроніка рэпрэсій супраць незалежнай газеты

*"... может быть, мы ослабили контроль за средствами массовой информации и позволяем им творить тот беспредел, который сейчас происходит. Но мы должны все это перетерпеть. Если мы прикроем кого-то... Они на это нарываются. Мы не должны этого делать. Мы призовем их к ответу после выборов" (А. Лукашэнка. З выступлення на сустрэчы з выбаршчыкамі ў Палацы Рэспублікі 4 верасня 2001 года).*

Падобна, прыйшоў час рэалізацыі абяцаных пагроз у адрас незалежных выданняў. Адна з "нелюбімых" уладай газет закрытая. Прычым, закрытая з грубымі парушэннямі цяперашняга Закона аб друку.

Мне давялося быць непасрэдным удзельнікам усіх судовых пасяджэнняў, дзе марудна, але верна рыхтаваўся "смяротны прыгавор" газеце. І рэдактару газеты Мікалаю Маркевічу, і тром яго прадстаўнікам-юрыстам здавалася, што Вышэйшы гаспадарчы суд у асобе суддзі Валерыя Жандарава даўно ўсвядоміў беспадстаўнасць прэтэнзій мясцовай пракуратуры да "Пагоні". Аднак аказалася, што суд ад пачатку і да канца быў добра адрэпеціраваным спектаклем з загадзя вядомым фіналам.

### У цісках ва ўлады

Мясцовыя органы ўлады ўжо даўно вялі "вайну" з незалежнай газетай. Яны сігналізавалі ў Цэнтр пра малейшыя адступленні рэдакцыі ад Закона аб друку. І гэтая работа давала вынікі:

- 10.02.1999 г. – папярэджанне Дзяржкамітэта па друку за апублікаванне вядомага дакумента Цэнтрвыбаркома пад кіраўніцтвам В. Ганчара аб правядзенні ў маі 1999 года выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;
- 14.02.2000 г. – папярэджанне заснавальніку газеты культурна-асветніцкага фонду "Бацькаўшчына" за распаўсюджванне незарэгістраванага дадатка "ТВ-праграмы";
- 05.05.2000 г. – папярэджанне за публікацыю інфармацыі ад імя незарэгістраванага ў органах юстыцыі Маладзёжнага антыфашысцкага цэнтра;
- 06.2000 г. – папярэджанне за распаўсюджванне інфармацыі ад імя Гродзенскага маладога фронту, які не прайшоў ва ўстаноўленым парадку дзяржаўнай рэгістрацыі;
- 17.11.2000 г. – папярэджанне за апублікаванне заявы незарэгістраванага ў органах юстыцыі Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва".

Па ўсім мяркуючы, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў мясцовыя ўлады вырашылі закрыць незалежную газету, каб яна не аказвала "шкоднага" уздзеяння на выбаршчыкаў. 27 жніўня 2001 года пракуратура Гродзенскай вобласці звярнулася з іскам у абласны гасадарчы суд аб спыненні дзейнасці газеты "Пагоня" і аб ліквідацыі яе рэдакцыі як юрыдычнай асобы.

Звяртае на сябе увагу тое, што іск аб закрыцці газеты пракуратура матывавала "неабходнасцю абароны правоў грамадзян на своечасовае, аператыўнае атрыманне праз сродкі масавай інфармацыі дакладных звестак пра дзейнасць дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, пра палітычнае, эканамічнае і міжнароднае жыццё". Сам жа іск быў пададзены "у інтарэсах дзяржавы Рэспублікі Беларусь у асобе Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па друку".

### Дастала!

Пакуль іск гродзенскіх пракурораў пракручваўся праз махавік судовай бюракратыі, у Гродне адбылася падзея, якая рэзка актывізавала дзейнасць мясцовай "вертыкалі" у дачыненні да "Пагоні". У нумары 36 за 4 верасня 2001 года рэдакцыя размясціла шэраг матэрыялаў, якія заклікалі выбаршчыкаў не галасаваць на выбарах за кандыдата А. Лукашэнку і ў даходлівай форме, у тым ліку, сатырычнай, тлумачылі, чаму ён не павінен займаць пасаду кіраўніка дзяржавы. Нейкім чынам пра крамольныя матэрыялы стала вядома ўладам. У друкарню прыбыла група пракурорскіх работнікаў. Яны пазнаёміліся з тэкстам нумара газеты і прынялі рашэнне аб канфіскацыі надрукаваных газет у колькасці 10751 экземпляр, забаранілі друкаваць астатні тыраж (поўны тыраж газеты павінен быў складаць 88000 экземпляраў).

Вось тут і пачалося... Па газеце ўдарылі з усіх "стваловў": ужо на наступны дзень пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факце паклёпу на прэзідэнта (ч. 1 арт. 367 КК); у рэдакцыі была праведзеная выемка чатырох сістэмных блокаў ад камп'ютэраў, адабраныя бухгалтарскія дакументы за 2001 год. Пазней быў арыштаваны рахунак рэдакцыі з мізэрнымі рэшткамі сродкаў, а таксама запасы газетнай паперы, якія заставаліся ў друкарні. У рэдакцыі прайшло два вобыскі з аглядам і канфіскацыяй усіх падазроных матэрыялаў, у тым ліку, кантрольныя адбіткі наступнага нумара газеты і пісьма чытача пад назвай "Графіці на банкнотах". Усе супрацоўнікі рэдакцыі выклікаліся на допыты, некаторыя нават па некалькі разоў.

Нягледзячы на падрыў "матэрыяльнай базы" і адкрытае запалохванне членаў рэдакцыйнага калектыву, газета ўсё ж працягвала выходзіць, выклікаючы яшчэ большае незадавальненне ўладаў. Тады было вырашана паскорыць працэс закрыцця газеты. Да справы падключыўся Вышэйшы гаспадарчы суд: ён прыняў іск пракуратуры да свайго выканання і назначыў слуханне справы на 27 верасня.

Аднак яшчэ да суда высветлілася , што пракуратура з прад'яўленнем іска паспяшалася. Па законе для закрыцця газеты неабходна атрымаць не менш за два папярэджанні на працягу года. А "Пагоня" за апошні год мела толькі адно папярэджанне: ад 17 лістапада 2000 года. Да таго ж, не захацеў удзельнічаць у сумнійнай справе Дзяржкамітэт па друку. Ён накіраваў у адрас суда афіцыйнае пісьмо з адмовай ад іску, які яму спрабавала навязаць пракуратура Гродзенскай вобласці. Пры такіх абставінах здавалася, што справа не мае судовай перспектывы, і яе трэба спыняць. Але пракуратура не хацела прызнаваць сваё паражэнне.



Фота з архіва "РГ".

Рэдактар "Пагоні" Мікалай Маркевіч на не санкцыянаваным уладамі пікеце ў Гродне 19 лістапада.

### Новае наступленне

За тыдзень да судовага разбору (21 верасня) тая ж пракуратура вынесла газеце "Пагоня" папярэджанне за апублікаванне ў нумары 36 артыкула Паўла Мажэйкі "Ідзем на выбары", пісьма чытача Сяргея Кракасевіча "Ён – не Лукашэнка" і верша неўстаноўленага аўтара "Абяшчал! Абяшчаю! Буду абяшчать!". Пракуратуру не збянтэжыла, што тыраж нумара быў цалкам канфіскаваны і што па гэтых жа матэрыялах праводзіцца крымінальнае расследаванне.

Атрымалася нейкае глупства: папярэджанне аб'яўляецца за тыя дзеянні, якія яшчэ не прывялі, але могуць прывесці да парушэнняў законаў. Але ці дапушчальна папярэджваць за дзеянні, па якіх ужо праводзіцца расследаванне? І ці можна проста так, галаслоўна, без даказвання ва ўстаноўленым законам парадку сцвярджаць, што газета на кагосьці ўзвяла паклёп?

Ну вельмі сумніўнае атрымалася ў пракуратуры папярэджанне. Над ім можна было б пасмяяцца, калі б не бачыць разлікаў пракуратуры, якія ідуць далёка. Зразумела, рэдакцыя газеты прыняла меры для прызнання гэтага папярэджання нязначным і падала адпаведную іскавую заяву ў гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці.

### Судовы працэс

Першае судовае пасяджэнне (27 верасня) было адкладзенае, не паспеўшы пачацца. Прычынай паслужыла тое, што пракуратура не прадаставіла другому боку ўсіх неабходных дакументаў.

На другім пасяджэнні (5 кастрычніка) прадстаўнікі рэдакцыі заявілі хадайніцтва аб спыненні выканання па справе ў сувязі з адмаўленнем Дзяржкамітэта па друку ад іску. Аднак суддзя адмовіўся яго задаволіць, матывуючы сваё рашэнне тым, што "адмаўленне істца ад іску, прад'яўленага пракурорам у інтарэсах дзяржавы, не цягне за сабой спынення па справе".

Да разгляду справы суддзя так і не прыступіў: яму спатрэбілася азнаёміцца з доказамі аб канфіскацыі тыражу газеты. І зноў адкладанне разбору... да 23 кастрычніка.

Да гэтага часу гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці прыняў да разгляду іск рэдакцыі аб прызнанні папярэджання пракуратуры несапраўдным і назначыў справу на 8 лістапада 2001 года. Таму на чарговым пасяджэнні было прынятае рашэнне аб прыпыненні выканання па асноўнай справе да вынясення рашэння гаспадарчым судом Гродзенскай вобласці.

У канцы кастрычніка мы атрымалі азначэнне суда за подпісам суддзі В. Жандарава аб аб'яднанні ў адно правядзенне іску рэдакцыі аб прызнанні папярэджання пракуратуры несапраўдным і іску пракуратуры аб закрыцці газеты. Разгляд "аб'яднанай" справы быў назначаны на 9 лістапада.

Вось у гэты дзень, уласна, і пачаўся судовы разгляд. З самага пачатку суддзя адмовіў ва ўсіх хадайніцтвах рэдакцыі. А мы патрабавалі асобнага разгляду іскаў, паколькі яны розныя па сваёй сутнасці; прасілі назначыць філалагічную экспертызу, каб вызначыць наяўнасць або адсутнасць у матэрыялах, якія сталі падставай для вынясення папярэджання, зневажальных выразаў у адрас канкрэтнай асобы.

### Канец гульні

Калі суддзя В. Жандараў без тлумачэння матываў адмовіў у нашых хадайніцтвах, стала зразумела, што да гэтага з намі проста гулялі, адкладваючы пад рознымі прычынамі судовыя пасяджэнні. Пракуратуры і суду трэба было падцягнуць па часе да асноўнага іску другое папярэджанне, каб мець фармальную падставу для закрыцця газеты. І яны, нарэшце, дамагліся свайго: другое папярэджанне стала прадметам разгляду ў тым жа судзе. Засталося толькі прызнаць яго законным, нягледзячы ні на якія довады прадстаўнікоў рэдакцыі.

Мы сапраўды прыклалі шмат намаганняў, каб пераканаць суд у беспадстаўнасці пракурорскага папярэджання, якое насуперак закону і логіцы было "уцягнутае" у судовы працэс. У прыватнасці, мы гаварылі пра тое, што не было факта распаўсюджвання друкаванай прадукцыі ў сувязі з канфіскацыяй тыражу, што не даказаны факт паклёпу ў дачыненні да А. Лукашэнкі, што пракурорскае папярэджанне было вынесенае пасля пачатку судовага разбору, што яго нельга ўлічваць пры вынясенні рашэння па іску аб закрыцці газеты і да т. п.

У гэты дзень суд не стаў выносіць рашэнне. Выніковае пасяджэнне адбылося 12 лістапада. Нішто не абяцала страшнага зыходу. Бакі выступілі з заключнымі прамовамі. Мы зноў паўтарылі свае аргументы і патрабаванні. Прадстаўнік Міністэрства інфармацыі Л. Богдан пацвердзіла адмаўленне міністэрства ад іску і тое, што для закрыцця газеты яна не бачыць падстаў.

Суддзя пайшоў на нараду. І вось ён зачытвае рэзалюцыйную частку рашэння: 1) у іску рэдакцыі газеты "Пагоня" аб прызнанні пакурорскага папярэджання несапраўдным адмовіць; 2) дзейнасць газеты "Пагоня" спыніць, а рэдакцыю ліквідаваць; 3) судовыя выдаткі ў суме больш за 150 тысяч беларускіх рублёў спагнаць з рэдакцыі газеты. Рашэнне суда ўступіла ў сілу з моманту яго абвяшчэння.

Такога цынізму ад суда ніхто не чакаў. Падзівіліся не толькі журналісты, што прыйшлі ў залу судовага пасяджэння, але і яго непасрэдныя ўдзельнікі. Не магла схаваць свайго здзіўлення і прадстаўнік Міністэрства інфармацыі. Суддзя ж зрабіў сваю справу і моўчкі выйшаў.

* * *

Што можна сказаць пасля працэсу? Асабіста ў мяне склалася перакананне, што пракуратура разам з судом расправілася з нялюбай уладам незалежнай газетай. Сцэнарый быў прыменены такі ж, што і ў дачыненні да газеты "Свабода" у лістападзе 1997 года. Спадатку яе "абклалі" з усіх бакоў і прымянялі ўсе дазволеныя сродкі прававога ўздзеяння: папярэджанні з боку кантралюючых органаў, праверкі фінансавай дзейнасці, узбуджэнне крымінальных спраў па фактах публікацый. У тым выпадку "смяротны прысуд" газеце вынес Вышэйшы гаспадарчы суд (суддзя М. Клімянкова).

Зразумела, вельмі шкада газету, якая мае дзесяцігадовую гісторыю, зладжаны рэдакцыйны калектыў і не менш за дзесяць тысяч адданых чытачоў. І абуральна, што газета закрытая без законных на тое падстаў. Па сутнасці, пракуратура, а следам за ёй Вышэйшы гаспадарчы суд выканалі палітычны заказ і знішчылі грамадскую трыбуну свабоднага слова, пазбавілі людзей права выказваць сваё меркаванне пра нашую рэчаіснасць. Сорамна за ўладу, якая расправўляецца з незалежнымі выданнямі, прыкрываючыся "інтарэсамі дзяржавы".

Як бы там ні было, другая незалежная газета, якая выклікала вострую непрыязнасць улады, закрытая "у судовым парадку". Хтосьці можа ўзрадавацца, але нядоўгая будзе радасць. Ужо падымаецца хваля грамадскага абурэння акцыяй беларускіх уладаў. Сваё стаўленне да гэтага выказалі Саюз журналістаў Літвы, Міжнародная арганізацыя за свабоду слова "Article XIX". Пасля слоў абурэння могуць паследаваць і канкрэтныя дзеянні.

Упэўнены, што ў гісторыі беларускай журналістыкі і юстыцыі выпадкі закрыцця незалежных газет будуць вывучацца як чорныя старонкі. І на гэтых старонках будуць запісаныя прозвішчы заказчыкаў і выканаўцаў гэтых ганебных спраў. А газета "Пагоня" яшчэ адродзіцца, як і гістарычны герб "Пагоня".

**Міхаіл ПАСТУХОЎ,**
**доктар юрыдычных навук, прафесар, кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ пры ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Андрэй Майсейчанка: пастараемся, каб за «Смаргонь» гулялі прафесіяналы

**– Віншую з выхадам у першую лігу. Каманда цяпер знаходзіцца ў адпачынку?**

– Адпусцілі гульцоў на тыдзень. Але сёння (размаўлялі 16 лістапада) у нас збор, заўтра трэніроўка, у нядзелю мы гуляем з "Маладзечнам". Пасля гэтага адпускаем усіх адпачываць.

**– Калі пачынаеце перадсезонку?**

– Асноўную частку пачынаем 8–10 студзеня. Перад Новым годам возьмем удзел у турніры па міні-футболе.

**– Пасля матча з "Пінскам-900", калі вы даведаліся, што выйшлі ў першую лігу, шампанскае ў аўтобусе было?**

– Зразумела, было.

**– Калі будзе ўшанаванне каманды?**

– Ёсць невялікія запазычанасці нам за прэміяльныя. Кіраўніцтва раёна плануе аддаць у канцы лістапада–пачатку снежня. Тады адразу будзе ўшанаванне.

**– Перадумовы для таго, каб выйсці ў першую лігу, былі з 1999 года. Але нечага не хапала. Чаго?**

– У мінулым годзе нашай задачай было трапіць у "васьмёрку". У 1999 годзе не хапіла шанцавання. Забі мы пенальці ў сябе дома з "Лакаматывам" (за 5 хвілін да канца ў перадапошнім туры **Віталь Відук** не забіў пенальці, і гульня завяршылася з лікам 0:0 – аўт.) і выйграй на выездзе ў "Забудовы" ("Смаргонь" у апошнім туры выйгравала 2:0, але згуляла ўнічыю 2:2), то мы выйшлі б у першую лігу.

**– Як склаўся лёс былых футбалістаў "Смаргоні"?**

– **Недавес** працуе трэнерам, **Юркевіч** таксама не згубіўся – ён адміністратар каманды. **Дзіма Курак** скончыў эканамічны ўніверсітэт і пайшоў працаваць менеджэрам на мінскую фабрыку "Керамін". Мы з ім пагаварылі, і Дзіма сказаў, што жадае звязаць сваё жыццё з менеджментам.

**– Васілеўскі?**

– Сяргей уладкаваўся на работу ў Жодзіне, стаў дзіцячым трэнерам. Ён "ударыўся" у судзейства. Васілеўскі летась адгуляў 3 туры, і мы з ім развіталіся.

**– Дзе цяпер Цярэшчанка?**

Алег быў ужо ўзроставым гульцом. Пасля сезона-99 мы вырашылі амаладзіць каманду.

**– У той жа час, калі б не ён, Дукса не так прагрэсіраваў бы?**

– Я згодны. Канкурэнцыя заўсёды патрэбная!

**– Вяртанне Каўрыгі.**

– Ён гуляў за "Лакаматыў-96", мы яго запрасілі да сябе. Было ўсё добра, прайшоў перадсезонку ў нас, згуляў некалькі матчаў. Але ён жыве ў інтэраце БелАЗа, і перад ім паставілі ўмовы: ці працуй на заводзе, ці гуляй у футбол, але не жыві ў інтэрнаце. Вось і ўсё. Мы прыйшлі з ім да высновы, што трэба рабіць нешта адно.

**– Апяцёнак у нападзенні таксама добра гуляў!**

– У яго была сур'ёзная траўма, ён "ываліўся" на ўвесь мінулы сезон. Потым цяжка ўваходзіў. Ён скончыў інстытут, паступіў у аспірантуру і заняўся навукай.

**– Цяперашні склад даволі збалансаваны. Якія лініі плануеце ўзмацніць?**

– У першую чаргу, нам патрэбны чалавек-гол. Сёлета мы няблага ішлі, але ў нас няма лідэра ў нападзенні. У нас быў Улад Каўрыга. Ён прымае мяч – і гэта ўжо небяспечна. Нам патрэбны гулец такога тыпу.

**– А Відук? Ён пазалетась таксама няблага забіваў.**

– Ён паўнацэнна не трэніруецца. У яго ёсць асноўнае месца работы ў Мінску.

**– Першая ліга мае на ўвазе прафесійны занятак футболам.**

– Таму мы пастараемся, каб у наступным годзе у нас былі гульцы, якія жылі б кавалкам хлеба ад футбола. Яны будуць знаходзіцца тут, трэніравацца. Будзем працаваць над селекцыяй. Магчыма, трэба будзе ўзмацніць паўабарону.

**– Ёсць футбалісты, з якімі вы развітаецеся?**

– Я не хацеў бы гэта пускаць праз прэсу.

**– Стан поля ў вас не лепшы.**

– Мы на гэтым полі і трэніраваліся, і гулялі. Таму яно і такое забітае. Пасля гульні з "Маладзечна" мы зрэжам вароты і зробім, як у Чысці. Выраўняем рэльеф поля, падсыплем ямінкі, падсеем траву. Хацелі б на будучы год трэніравацца ў Залессі. Там ёсць прафілакторыі, нядрэнная база. А сваё поле будзем берагчы толькі для гульняў.

**– І нікога пускаць не будзеце?**

– Калі толькі чэмпіянат вобласці. Я лічу, што нам патрэбная там каманда. Іх будзем пускаць, людзі будуць хадзіць і на гэты чэмпіянат.

**– Хто вам дапамагае?**

– У асноўным, бюджэт раёна і завод аптычнага станкабудавання.

**– Але ў першай лізе іншыя грошы. Напрыклад, стартавы ўзнос большы, чым у другой лізе.**

– Я паўгадзіны таму прыйшоў ад старшыні райвыканкома **Станіслава Юргеля**. Меў з ім размову. Ён сказаў, што ўсё, што залежыць ад бюджэту, яны зробяць і будуць прасіць кіраўнікоў прадпрыемстваў раёна, каб яны дапамагалі.

За 4 гады работы тут ні разу не падманулі, і я не падмануў людзей. Я веру і кіраўнікам раёна, і кіраўнікам прадпрыемстваў. Усё, што яны могуць, яны даюць і дадуць.

**– Уладзіслаў Дукса. Адзін з самых таленавітых гульцоў "Смаргоні". Які яго далейшы лёс? Сёлета яго праглядала "Маладзечна", хадзілі размовы пра пераход у "Тарпеда-МАЗ".**

– Хлопец малады, перспектыўны. Жаданне гуляць у футбол у яго ёсць – чалавек скончыў школу з залатым медалём, але пайшоў у футбол.

Каманда выйшла ў першую лігу. Калі ніхто з клубаў вышэйшай лігі ім не зацікавіцца, я з задавальненнем буду за тое, каб ён застаўся ў камандзе.

Увогуле, я не буду нікога трымаць, калі будуць прапановы з вышэйшай лігі. Няхай павышаюць сваё майстэрства.

У нас шмат маладых гульцоў: **Шаблінскі**, **Фаміна** мы нядаўна ўзялі. Спадзяюся, што гэта перспектыўны хлопец.

**– Якая задача на наступны сезон?**

– Мы яшчэ ад гэтай не адышлі – у эйфарыі знаходзімся. Задача будзе такая самая, як і сёлета: гуляць, радаваць гледачоў, па максімуме перамагаць.

**– Вернемся да стадыёна. Адну трыбуну вы больш-менш упарадкавалі. З другой што будзе?**

– Там металаканструкцыі і пластыкавыя крэслы не ўстановіш. Мяркую, яна і так няблага глядзіцца.

**– Але ёсць жа розніца ў патрабаванні да стадыёна паміж першай і другой лігамі.**

– Будзе ліцэнзаванне стадыёна. Ужо распрацаваная праектная дакументацыя і перад пачаткам чэмпіянату будзе пабудаваная ложа прэсы, зробленыя санвузлы і душавыя. Павялічацца раздзявальні.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МЕРКАВАННЕ

# Першы блін атрымаўся комам

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета каманда з Радашковічаў дэбютавала ў другой лізе чэмпіянату вобласці па футболе.**

Першы блін атрымаўся комам: каманда заняла апошняе месца сярод 5 каманд.

Трэнер каманды Віктар Бандарэнка выказаў свой пункт погляду на выступленне каманды.

– У красавіку 2001 года найбольш уплывовыя і забяспечаныя людзі пасёлка сабраліся ў пасялковым савеце. Аднадушным было меркаванне аб тым, што ў Радашковічах неабходная каманда, якая сваімі выступленнямі разнастаіць жыццё жыхароў пасёлка і прыцягне іх на стадыён. Тут жа былі распісаныя абавязкі па фінансавых выдатках, неабходных для ўдзелу ў першынстве вобласці. Адзін з прысутных узяў на сябе абавязацельства купіць для каманды форму, другі – буцы, трэці – мячы, чацверты дапаможа з транспартам для дастаўкі гульцоў да месца спаборніцтваў. Мяне прызначылі трэнерам будучай каманды.

З гэтага моманту я заняўся падборам футбалістаў. З гэтай задачай, на маю думку, я справіўся. Перад хлопцамі ставілася задача ўвайсці ў прызавую тройку. Я заверыў іх, што форма і буцы да пачатку сезона ў іх будуць. На жаль, у людзей, якія ў гарвыканкоме абяцалі дапамагчы камандзе, справы ішлі горш. Да пачатку спаборніцтваў ніводны з пунктаў не быў выкананы. Мне было сорамна глядзець людзям у вочы, бо я нават запісаў памер нагі ў кожнага.

На першую сустрэчу 10 гульцоў выйшлі ў паношаных майках аднаго колеру, у хлопцаў, якія гулялі раней у прыстойных камандах, былі свае буцы, астатнія – у кедах. Нягледзячы на гэта, сыгралі з камандай з Узды ўнічыю. Другую гульню выйгралі ў каманды з Рудзенска. У дзвюх першых гульнях было пяць мясцовых хлопцаў.

Да гэтага часу мы былі адныя з лідэраў, але, нягледзячы на гэта, выязджаць на гульню ў Дзераўное адмовіліся тры вядучыя футбалісты. У выніку мы прайгралі 2:1.

За гэтую гульню я патраціў 60 умоўных адзінак сваіх грошай, таму што не было сродкаў на харчаванне ўдзельнікаў і бензін на дарогу назад.

Апошнюю гульню першага круга мы таксама прайгралі 2:0, таму што за каманду ўжо адмовіліся гуляць пяць вядучых гульцоў.

У другім крузе першыя дзве гульні на выездзе мы наогул не змаглі згуляць. Першы раз па дарозе ва Узду аўтобус зламаўся, і задача ў каманды была адна: дабрацца дадому. Аўтобус штурхалі ўсёй камандай у зваротным накірунку, а ад Заслаўя да Маладзечна дабіраліся электрычкай. У гэтай паездцы я зноў выдаткаваў свае асабістыя грошы. Праз тыдзень аўтобус яшчэ не адрамантавалі, з гэтай прычыны мы не выехалі ў Рудзенск.

Заставалася сыграць дзве гульні. Пры любым зыходзе пазбегнуць апошняга месца мы не маглі. Таму я прапанаваў мясцовым футбалістам праверыць свае сілы. Дамашнюю гульню з камандай Дзераўное мы прайгралі.

На апошні матч у Вілейку нават другі склад каманды ехаць адмовіўся, матывуючы гэта тым, што харчаванне за папярэднюю гульню было выдадзенае не ўсім, а выбарачна. У выніку мы занялі апошняе месца.

У Радашковічах неабходна мець каманду ўдзельніка абласнога першынства. У цяперашні час пяцёра юных футбалістаў з Радашковічаў займаюцца ў Мінскай СДЮСШ "Змена", трое з іх – у спецкласе па футболе. З хлопцамі пасёлка ў гэтым годзе пачаў займацца яшчэ адзін трэнер. У суседнім пасёлку Аляхновічы таксама працуе з дзецьмі дасведчаны спецыяліст, і ўжо ёсць поспехі.

**Віктар БАНДАРЭНКА, дырэктар ДЮСШ пры раённым каміцеце прафсаюза Маладзечанскага аграпрамысловага комплексу.**

## Табло

■ ВАЛЕЙБОЛ

МЯДЗЕЛ. З 16 лістапада прайшоў паўфінал мужчынскага чэмпіянату вобласці. Бралі ўдзел каманды Мядзельскага, Маладзечанскага, Мінскага і Бярэзінскага раёнаў. Першыя тры каманды падзяліліся п'едэстал.

У фінал выйшла каманда Мядзельскага раёна.

■ БАСКЕТБОЛ

ВАЛОЖЫН. На мінулыя выхадныя прайшлі занальныя гульні чэмпіянату Мінскай вобласці сярод жанчын. Удзельнічалі каманды з Валожынскага, Маладзечанскага, Вілейскага і Мядзельскага раёнаў. У паўфінал трапілі першыя дзве каманды. Фінал пройдзе ў Маладзечне 23–25 лістапада.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ФУТБОЛ

**Выніковыя табліцы чэмпіянату Беларусі ў вышэйшай і другой лігах**

| | | | Г | Пм | Н | Пж | Р/М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Белшына | 0:0 | 0:2 | 26 | 17 | 4 | 5 | 43–20 | 55 |
| 2. Дынама (Мн) | 1:3 | 1:3 | 26 | 16 | 5 | 5 | 52–21 | 53 |
| 3. БАТЭ | 2:1 | 3:6 | 26 | 16 | 3 | 7 | 54–31 | 51 |
| 4. Нёман-Белкард | 0:3 | 0:3 | 26 | 14 | 8 | 4 | 44–20 | 50 |
| 5. Шахцёр | 0:0 | 1:4 | 26 | 13 | 7 | 6 | 43–24 | 46 |
| 6. Гомель | 1:0 | 0:3 | 26 | 13 | 5 | 8 | 36–24 | 44 |
| 7. Славія | 0:4 | 0:4 | 26 | 13 | 5 | 8 | 49–27 | 44 |
| 8. Тарпеда-МАЗ | 1:1 | 0:1 | 26 | 10 | 7 | 9 | 31–32 | 37 |
| 9. Днепр-Трансмаш | 2:1 | 2:4 | 26 | 8 | 7 | 11 | 29–37 | 31 |
| **10. Маладзечна-2000** | ** | ** | **26** | **8** | **5** | **13** | **23–47** | **29** |
| 11. Дынама (Бр) | 1:0 | 0:0 | 26 | 8 | 5 | 13 | 26–38 | 29 |
| 12. Лакаматыў-96 | 0:1 | 1:1 | 26 | 4 | 7 | 15 | 18–51 | 19 |
| 13. Нафтан | 2:1 | 1:0 | 26 | 4 | 2 | 20 | 18–51 | 14 |
| 14. Ведрыч-97 | 2:0 | 2:1 | 26 | 2 | 2 | 22 | 17–60 | 8 |

У першым слупку пасля назваў каманд – вынікі дамашніх сустрэч ФК "Маладзечна-2000", у другім – гасцявых.

Пры аднолькавай колькасці ачкоў занятыя месцы вызначаюцца па наступных паказчыках: большай колькасці перамог; выніках у асабістых гульнях.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Лакаматыў | 34 | 26 | 4 | 4 | 77–17 | 82 |
| **Смаргонь** | **34** | **25** | **4** | **5** | **63–16** | **79** |
| Вертыкаль | 34 | 22 | 6 | 6 | 55–24 | 72 |
| РВАР | 34 | 19 | 7 | 8 | 65–29 | 64 |
| Баранавічы | 34 | 18 | 9 | 7 | 63–34 | 63 |
| Днепр | 34 | 18 | 5 | 11 | 60–39 | 59 |
| Пінск-900 | 34 | 17 | 3 | 14 | 61–37 | 54 |
| Дынама-2 | 34 | 16 | 4 | 14 | 50–47 | 52 |
| Гомель-2 | 34 | 13 | 4 | 17 | 40–53 | 43 |
| СКАФ | 34 | 12 | 2 | 16 | 31–45 | 42 |
| Трактар | 34 | 11 | 9 | 14 | 42–44 | 42 |
| Верас | 34 | 11 | 9 | 14 | 32–40 | 42 |
| **Забудова** | **34** | **12** | **5** | **17** | **38–58** | **41** |
| Рудзенск | 34 | 12 | 4 | 18 | 60–73 | 40 |
| Працоўныя рэзервы | 34 | 11 | 7 | 16 | 53-47 | 40 |
| Старыя Дарогі | 34 | 11 | 7 | 16 | 48–49 | 40 |
| Палессе | 34 | 2 | 4 | 28 | 22–102 | 10 |
| Змена | 34 | 1 | 1 | 32 | 13–119 | 4 |

■ ЛЫЖЫ

**МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні лыжнікі з Маладзечна Віктар Жукоўскі і Васіль Шапцібой паехалі на 15-дзённы збор у Сыктыўкар.**

Потым яны будуць 18 дзён у Новаўральску. Гэтыя зборы ажыццяўляюцца ў рамках падрыхтоўкі да Параалімпійскіх гульняў, якія пройдуць зімой у Амерыцы.

Усе выдаткі нясе Міністэрства спорту і турызму.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ТУРЫЗМ

**З 1 па 7 лістапада адбыўся турысцкі паход на Блакітныя азёры.**

Удзельнічалі 9 старшакласнікаў і навучэнцаў вучылішча. Маршрут быў такі: Блакітныя азёры, возера Нарач, вёска Вузла, вёска Іжа, вёска Шведы, Маладзечна. Па ўсіх гэтых пунктах мы рухаліся пешшу, у дзень даводзілася праходзіць па 15–20 кіламетраў. Маршрут уключаў у сябе ўчасткі натуральных перашкод. Даводзілася ісці праз лес, поле, пераходзіць рэчкі і нават ісці па балатах.

**Віктар БАЙГОЛАЎ.**

■ ІНТЭРНЕТ

**МАЛАДЗЕЧНА. На афіцыйным сайце ФК "Маладзечна-2000" адкрыўся Інтэрнет-магазін спартыўных тавараў.**

Тут можна набыць не толькі прафесійную спартыўную экіпіроўку, але і шалікі з атрыбутыкай клуба. Гэта пакуль тэставая версія, і калі магазін акажацца запатрабаваным, то ён можа перарасці ў больш сур'ёзны праект і прадаваць не толькі спартыўныя тавары.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КОНКУРС



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Пераможца трэцяга этапа нашага конкурсу Алег Вірынскі з півам ад «Рэгіянальнай газеты».**

# ВІНШАВАНКІ

Любімай жонцы
**Наталлі Залатухінай**
з 30-годдзем!



Будь самой веселой
и самой счастливой,
Хорошей и нежной,
самой любимой,
Будь самой внимательной
и самой красивой,
Простой, обаятельной,
неповторимой.
*Муж Саша,*
*сыны Дзіма і Руслан.*

**Ганне Мікалаеўне Чарапок**
з юбілеем

Хай будзе век шчаслівы –
ад нас усіх паклон!
Здароўя табе, родная,
блакітных зычым дзён.
Багацце тваё вечнае
ў шчырай цеплыні.
Ты, самая сардэчная,
ад нас любоў прымі.
Для нас
цябе няма на свеце даражэй.
Адна ты ў нас,
як у нябёсах сонца.
І Бог цябе няхай заўсёды беражэ,
І зорка шчасця свеціцца твая
бясконца.
*Твае мужчыны Расціслаў,*
*Андрэй, Мікалай.*

Віншуем ад усёй душы
з 40-годдзем
**Міхаіла Аляксеевіча Грэчку**!

Прекрасный возраст – 40 лет,
В нем мудрость, красота и сила.
А впереди — желанный свет
И добрых дел, и дел счастливых.
Хотим здоровья пожелать,
И радости, и счастья,
Желаем в жизни избежать
Досадных огорчений.
И дни рождения встречать
В хорошем настроении!
*З любоўю, жонка, сыны.*

**Алене Іванаўне Роліч**
З юбілеем!
Поздравляем, мамочка, тебя мы
С этим радостным и светлым днем.
И от всей души тебе желаем,
Чтобы жизнь была
наполнена теплом.
Чтобы ты такой же оставалась
Долгие-предолгие года,
Ладилось всё и удавалось,
Каждая мечта твоя сбывалась.
Мамочка, будь счастлива всегда.
*Муж, дочкі, зяць.*

Віншуем з днём нараджэння **Таццяну Рыгораўну Ігнатовіч**! Жадаем здароўя, даўгалецця, сямейнага дабрабыту, шчасця, кахання. *Жаўняровічы.*

Віншуем з днём нараджэння **Марыю Іванаўну Баран**! Жадаем здароўя, дабрыні, даўгалецця. Беражы цябе Бог! *Жанна і Саша.*

Віншуем **Леаніда Іванавіча Шыкаўца** з 60-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця. *Жонка, сын, дачка, цешча і ўнучка Настачка.*

Віншуем з 25-годдзем сумеснага жыцця **Валянціна Адамавіча і Ларысу Аляксандраўну Кісялёў**! Жадаем кахання, шчасця і здароўя. *Вашы Света і Гена.*

Віншуем любімага мужа, тату **Пятра Томкавіча** з 40-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця. *Жонка, сыны.*

Дарагога сыночка **Руслана Пякарскага** віншуем з 10-годдзем! Здароўя, узаемаразуменя ў сям'і, поспехаў у вучобе і верных сяброў. *Твае родныя.*

Віншуем з юбілеем **Валянціну Паўлаўну Філістовіч**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця, радасці. *Твая сям'я.*

**Святлану Пуськову** віншуем з днём нараджэння! Шчасця, здароўя, моцнага кахання. *Іна, Оля.*

Віншуем **Васілія Сямёнава** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця ў жыцці. *Сям'я Тарановічаў.*

Любімага сына **Міхаіла Адоева** з 18-годдзем! Пусть каждый день приносит радость, счастье, здоровье, понимание и участие. *Бацькі.*

Віншую дарагога **Аляксея Жукоўскага** з днём нараджэння! Жадаю шчасця, здароўя, кахання і ўсяго самага найлепшага. *Твая Надзейка.*

Дарагога ўнука **Алёшку Жукоўскага** віншуем з днём нараджэння! Жадаем поспехаў у вучобе, кахання, здзяйснення мараў. *Дзядуля і бабуля.*

Віншуем з 17-годдзем **Аляксея Жукоўскага**! Пусть каждый день твой светлым будет, не гаснет пусть твоя звезда. *Саўчыцы.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Малады чалавек, 30/180/78, пазнаёміцца з дзяўчынай для сур'ёзных адносін. 222310, Маладзечна-6, п/п МС 0575894.

Аляксандр, 25 год, прыгожы, адзінокі, без шк/зв., пазнаёміцца з дзяўчынай не старэй за 25 год. 222415, Вілейскі р-н, п/а Куранец, п/п МС 0328448.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 47

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

рэгіянальная газета

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

■ НЕБА

# Палярнае ззянне над Маладзечнам

**У ноч з 25 на 26 верасня 2001 года пры назіранні метэораў на дачы (10 кіламетраў ад Маладзечна) заўважыў бакавым зрокам яркі фон неба ў паўночным сектары неба.**

Якое ж было маё здзіўленне, калі я павярнуў галаву ў бок поўначы! Увесь сектар неба "палаў" ярка-чырвоным зарывам! Палярнае ззянне пачалося ў 01.43 па беларускім часе ці крыху раней. Напэўна, менавіта ў гэты момант да Зямлі падышоў магутны паток сонечнага ветру, які з'яўляўся вынікам магутнай успышкі на Сонцы.



Вышыня ззяння дасягала 60 градусаў над гарызонтам, ахопліваючы М. Мядзведзіцу і Вялікую, Дракон, Рысь, Жырафу і паўночную частку Валапаса.

У раёне сузор'я Дракона выразна вылучалася інтэнсіўна-чырвоная авальная пляма. Інтэнсіўнасць ззяння то павялічвалася, то змяншалася, быццам пульсуючы. Асабліваcцю з'явы былі вельмі прыгожыя "слупы", якія хутка мяняліся: белаватыя і жаўтавата-зеленаватыя. Яны быццам хадзілі з захаду на ўсход на фоне ззяння, хутка змяняючы адно аднаго проста на вачах. Прыкладна ў 01.55 з'явіўся вельмі яркі белаваты "слуп", які быў размешчаны перпендыкулярна гарызонту і дасягаў 50-градуснай вышыні. Шырыня слупа каля 3 градусаў. Структура наступная: па баках – дзве яркія шырокія і інтэнсіўныя паласы, шырынёй каля 1 градуса, а ў цэнтры – у 2 разы менш інтэнсіўная вузкая паласа. Да 02.05 ззянне зменшыла сваю інтэнсіўнасць у некалькі разоў, у 02.08 паблякла і знікла.

Другі раз палярнае ззянне нечакана пашчаслівілася ўбачыць амаль праз месяц у ноч з 21 на 22 кастрычніка 2001 года, і зноў у час назіранняў метэораў. З-за невыказна цудоўнага відовішча я вырашыў часова перарваць праграму назіранняў метэораў. У гэтую ноч палярнае ззянне з'яўлялася і знікала тры разы.

Самае яркае другое ззянне адбывалася каля 21-00 сусветнага часу. Такога цудоўнага і яркага відовішча я ніколі ў жыцці не бачыў. Менавіта гэтае другое ззянне запомнілася на ўсё жыццё. Структура ззяння наступная: вялікая колькасць вельмі яркіх чырвоных, аранжавых плям, размешчаных з захаду, праз зеніт на ўсход. Унутры кожнай плямы паралельныя промні (у асноўным, белаватыя). Промні нахіленыя пад вуглом 50–60 градусоў да гарызонта. Светла-блакітная паласа цяпер расшырылася да 20–25 градусаў, і ў яе ззянні "патанулі" яркія зоркі В. Мядзведзіцы. Вышыня паласы над гарызонтам каля 30–40 градусаў. Вельмі цяжка апісаць тое, што адбывалася на небе. Практычна ўвесь паўночны сектар неба іскрыўся і палаў: мноства ярка-чырвоных і аранжавых плям з промнямі ў іх утварылі вялізную дугу на небе. Кожная пляма хутка мяняла памеры, форму, афарбоўку. Сінхронна мяняліся і самі промні ў плямах. Колькасць промняў у плямах даходзіла да 7, а колькасць плям – да 12–15. Пералічу сузор'і, адначасова ахопленыя "зарывам": Валапас, Ліра, Геркулес, Лебедзь, Дракон, Паўночная Карона, Цэфей, Касіяпея, М. Мядзведзіца, В. Мядзведзіца, Г. Псы, Вознічы, Блізняты, Рысь, М. Л. Цікава, што "бег" промняў можна параўнаць з асвятленнем крыху туманнага неба фарамі аўтамабіля, які знаходзіцца "пад гарызонтам" невялікай ўзвышанасці і павінен вось-вось з'явіцца на гарызонце. А пляму з промнямі можна параўнаць са звычайным батонам, толькі больш акруглай формы.

Трэцяе ззянне, сярэдняй інтэнсіўнасці, адбывалася каля 23-00 сусветнага часу. Працягласць – каля 40 хвілін. У асноўным, ззянне было падобнае на першае: плямы сярэдняй інтэнсіўнасці, якія хутка мяняюцца. У гэты момант я праводзіў назіранні метэораў, таму дэтальна не зафіксаваў хроніку з'явы. Асабліва мне запомніліся пралёты яркіх метэораў на фоне з'явы.

Незабыўныя моманты так хутка праходзяць! Лічу, што ў кожнага назіральніка павінен быць напагатове фотаапарат з зараджанай каляровай стужкай менавіта для такіх рэдкіх з'яў.

**Іван СЯРГЕЙ, Краснае.**

# Сустракаем новую камету!

**Аўтаматычная сістэма LINEAR, што знаходзіцца на арбіце нашай планеты, знайшла новую камету, якая будзе цудоўна бачная для жыхароў паўночнага паўшар'я Зямлі.**

Простым вокам камету можна будзе ўбачыць у канцы лістапада ў сузор'і Рыбаў (паўднёвы сектар неба) на вышыні каля 60 градусаў над гарызонтам як невялікую бясформенную пляму, па яркасці параўнальную з самымі слабымі зоркамі. Максімальнай яркасці нябесная госця дасягне ў пачатку снежня, калі будзе відаць з вечара ў паўднёвай вобласці неба на вышыні каля 15 градусаў, па яркасці параўнальная з зоркамі сярэдняй велічыні. З сярэдзіны снежня камета пераходзіць у паўднёвае паўшар'е і практычна нябачная з нашых шыротаў.

**Іван СЯРГЕЙ, Краснае.**

■ ІМЯНІНЫ

**23 лістапада**
**Праваслаўныя**: Арэста, Георгія, Канстанціна, Радзівона, Эраста.
**Каталіцкія**: Феліцыты, Клеменса.

**24 лістапада**
**Праваслаўныя**: Сцепаніды, Вікенція, Віктара, Лукі, Максіма, Міны, Сцяпана, Фёдара.
**Каталіцкія**: Флоры, Яна.

**25 лістапада**
**Праваслаўныя**: Івана, Ніла, Спірыдона.
**Каталіцкія**: Катарыны, Эразма.

**26 лістапада**
**Праваслаўныя**: Антаніна, Германа, Івана, Нікіфара.
**Каталіцкія**: Катарыны, Кандрата, Леанарда, Лявона, Сільвестра.

**27 лістапада**
**Праваслаўныя**: Піліпа, Рыгора, Фёдара.
**Каталіцкія**: Валяр'яна, Віргіліуша, Юзафа, Язэпа.

**28 лістапада**
**Праваслаўныя**: Гурыя, Дзмітрыя, Маркела.
**Каталіцкія**: Здзіслава, Рыгора, Якуба.

**29 лістапада**
**Праваслаўныя**: Мацвея, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Блажэя, Сатурніна.

■ ШКОЛА ЖЫЦЦЯ

# Акадэмія жыццёвых хітрыкаў

Прывітанне. Сёння, як і абяцалі, мы раскажам дарагім нашаму сэрцу мужам пра прыкметы "гатоўнасці нумар два", калі можна з упэўненасцю канстатаваць, што лёгкі флірт вашай жонкі з нейкім незнаёмцам перарос у штосьці больш сур'ёзнае. Падрыхтуйце дзесятак таблетак валяр'янкі (можна ў кроплях) і чытайце.

Пра такую дробязь, як познія прыходы дадому і туманныя тлумачэнні і раздражненне ў адказ на самыя нявінныя пытанні гаварыць амаль не будзем. Проста невялікі прыклад:

– Прабач, што затрымалася, – хадзіла па магазінах.

– А што шукала?

– Заўсёды ты мяне дапытваеш!!!

Дык вось пра такія нюансы мы гаварыць не будзем, таму што гэта ўжо нават не нюансы, а проста нейкае яўнае верагоднае. А вось пагутарым лепей пра тэлефоны. Да іх у вашай жонкі назіраецца павышаная цікавасць. ("Мне ніхто не тэлефанаваў?", – пытаецца яна першай справай, як прыходзіць дадому). Калі тэлефон пераносны, ён пастаянна падарожнічае па кватэры ў кішэні яе халата. Размовы з "Машкай", "Верай", "Настассяй Фёдараўнай з жылканторы" у вашай прысутнасці вядуцца дзіўныя, усё больш "так" ці "не", "угу", "потым раскажу", але ні слова пра губную памаду, новую спадніцу ці сродак ад цэлюліту. Наогул, вы пачынаеце заўважаць, што ў вашай прысутнасці тэлефон пачаў барахліць, увесь час не туды трапляюць. Або гудкі. Або цішыня.

Ну, і нарэшце, страсць да абнаўлення гардэроба. Зразумела, яна і раней была ў наяўнасці ў вашай палавіны, але цяпер яна набывае нейкае паталагічна інтымнае адценне. Галоўны аб'ект увагі – ніжняя бялізна. Прычым пяшчотных пытанняў з прыдыханнем накшталт: "Дарагі, я табе падабаюся ў гэтым бодзі?" – вы не дачакаецеся.

Да гэтага пераліку яшчэ многае можна дадаць, але і таго, што сказана, дастаткова для дыягназу. Толькі, калі ласка, не рабіце рэзкіх рухаў! Ну і што, што супала ўсё? Можа, гэта проста недарэчнейшае супадзенне. Так, хутчэй за ўсё, супадзенне. Я дык нават думаю, што дакладна супадзенне.

**Сямён БОНДАР.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

У мінулы раз мы прапанавалі адгадаць, што сталася з першым у свеце святлафорам?

Правільны адказ: ён узарваўся. Першы ў свеце святлафор устанавілі перад памяшканнем англійскага парламента. Праз некаторы час ля святлафора паставілі газавы ліхтар, каб змяненне колераў было бачнае ў цёмны час сутак. Але ліхтар узарваўся і смяротна параніў паліцэйскага.

Запрашаем у кіно **Андрэя Мінца** з Маладзечна.

**НАСТУПНАЕ ПЫТАННЕ:** часта малююць вожыка з яблыкам на спіне. Навошта яблык вожыку?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 28 лістапада, 17-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Лістапад**
**Вялікая зала**

23–25 **"Міс кангеніяльнасць"**, ЗША, прэм'ера, камедыйны баявік 15-00 (льготны сеанс), 17-00, 19-00, 21-00

26 лістапада – 2 снежня **"Хамелеон"**, прэм'ера, Францыя, камедыя 15-00 (льготны сеанс), 17-00, 19-00, 21-00

**Для дзяцей**

25 – **"Даверлівы дракон"** 13-00

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ



# Навейшы стаматалагічны інструмент

Расказаў мой сябра ўкраінец.

– Паехаў я аднойчы з Кіева ў Маскву. Каб вы ведалі, як дастаюць гэтыя расійска-украінскія мытні.

Прыехаў я з адным дыпламатам у руках, чым і выклікаў падазрэнне ва ўсіх мытных службаў. У дыпламаце – парасон, зубная шчотка, брытва і інструменты для абцiскання сеткавых правадоў. Калі хто не ведае – гэта такія абцугі са спецыяльнымі зацiскамі і нажамі вельмі ўнушальнага выгляду.

Кожная з 4 мытняў лічыла сваім доўгам разварушыць усё ў дыпламаце, тыцнуць пальцам у абцугі і спытацца:

– Што ГЭТА???

Першыя два разы я быў гранічна шчыры, тлумачыў не толькі прызначэнне "дзіўнага прадмета", але і прынцып дзеяння.

На трэцяй па ліку мытні я не вытрымаў і сказаў:

– ГЭТА – навейшы ў стаматалогіі інструмент, прызначаны для выдалення зубоў без наркозу.

На маё вялікае здзіўленне, гэта прайшло не горш за першыя два адказы і нават выклікала шмат станоўчых эмоцый.

Сам ледзь утрымаўся ад смеху, намагаючыся ўявіць сабе "бязбольнае" выдаленне зуба гэтым прадметам.

**Сямён БОНДАР.**

## КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



**Па гарызанталях:** 1. Вонкавая частка поля, на якую нацягваецца шына. 4. Каменная гара з вострымі выступамі, крутымі схіламі. 6. Павойная расліна, пашыраная ў трапічных і субтрапічных лясах. 9. Шчыпковы музычны інструмент у выглядзе вялікай трохвугольнай рамы з нацягнутымі на ёй струнамі. 10. Верхняя канечнасць чалавека ад пляча да кончыкаў пальцаў. 11. Бакавы брус у дзвярной асадзе. 13. Плёнка туману, пылу, дыму і інш. 14. Яда сярод дня. 15. Ахоўная абалонка, у якой вусень ператвараецца ў кукалку. 17. Рэвальвер з рухомым барабанам. 20. Кавалак тканіны, якім засцілаюць стол. 24. Алкагольны напітак з ягад, садавіны. 25. Невялікая птушка, роднасная ўдоду, з вялікай галавой на кароткай шыі. 26. Металічная прылада для прасавання адзення, тканіны. 29. Паклоннік усяго прыгожага. 31. Халодная страва з нарэзаных кавалкамі гародніны, яек, мяса, рыбы і пад. з прыправай. 34. Прамысловая рыба сямейства кефаляў. 37. Фігурная металічная накладка на абразах, якая пакідае адкрытымі твар і рукі святога. 38. Адбіццё гуку ад прадметаў. 39. Злепак з гіпсу, зняты з твара нябожчыка. 40. У першабытных народаў: рэлігійная забарона на якое-небудзь слова, дзеянне, прадмет. 41. Тое, што і рэлігія. 42. Гурт авечак. 43. Шырокая і глыбокая круглая пасудзіна. 44. Грубая баваўняная тканіна з тоўстай пражы, звычайна жоўтага колеру.

**Па вертыкалях:** 1. Павадыр статка, чарады. 2. Свавольнік, нягоднік (разм.). 3. Роўная прастора ўздоўж рачнога ложа. 4. Пахавальны ўбор з белай тканіны для нябожчыка. 5. Доўгая вяроўка з пятлёй на канцы для лоўлі жывёлін. 6. Гультай. 7. Скамянелая смала жоўтага колеру, бурштын. 8. Лінія, якая абмяжоўвае прадмет, контур. 12. Крок. 16. Мінерал, разнавіднасць агату. 18. Травяністая трапічная расліна з шорсткім буйным лісцем. 19. Тонкія вяровачкі ў лапцях, якімі абмотваюцца анучы. 21. Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху на чым-небудзь. 22. Спецыяльна прыстасаванае памяшканне, дзе трэніруюцца страляць у цэль. 23. Невялікі рэстаран. 27. Ядавітае рэчыва. 28. Вялікае дрэва з зеленавата-шэрай карой і шырокім лапчастым лісцем. 29. Сукупнасць нормаў паводзінаў, мараль грамадскай групы. 30. Парны танец чатырохдольнага такта і музыка да гэтага танца. 31. Сухі, гарачы вецер пустынь, што ўтварае пясчаныя буры. 32. Масіў зямлі, зарослы дрэвамі. 33. Расліна з аднагадовымі зялёнымі неадзеравянелымі парасткамі і сцяблом. 35. Белы хлеб прадаўгаватай формы. 36. У грэчаскай міфалогіі: бажаство ў выглядзе жанчыны, якое ўвасабляе розныя сілы прыроды.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №46

**Па гарызанталях:** 3. Гак. 5. Мат. 7. Табар. 9. Парыў. 10. Залог. 12. Запал. 13. Наказ. 14. Балет. 15. Чад. 16. Парад. 17. Тарас. 18. Голад. 19. Каран. 21. Малыш. 22. Раб. 24. Вулей. 25. Тапаз. 27. Палец. 28. Карал. 30. Гараж. 31. Кабул. 32. Кут. 33. Кок.

**Па вертыкалях:** 1. Кабан. 2. Карат. 3. Газ. 4. Калач. 5. Мапед. 6. Тыл. 8. Рокат. 9. Палас. 11. Гад. 12. Зарад. 14. Баран. 16. Палаш. 18. Галец. 19. Калеж. 20. Гапак. 21. Мулат. 22. Рак. 23. Барак. 24. Варум. 26. Забой. 27. Пак. 29. Лук.



## Гараскоп 26 лістапада – 2 снежня



**Авен** (21.03–20.04)

Некаторыя перашкоды знікнуць самі сабой. Папраўіцца фінансавае становішча. Аднак тыя з вас, хто рвецца наперад, дакладна не ведаючы накірунку, рызыкуюць залезці ў такія нетры, што на дарогу назад будзе затрачана шмат часу. Магчымыя нечаканыя сустрэчы.



**Цялец** (21.04–21.05)

Будзьце гатовыя да разгляду самых грандыёзных праектаў, прысвечаных усебаковаму пераўтварэнню ўласнага будучага. Згадзіцеся, нярэдка мы не выкарыстоўваем большую частку нашых магчымасцяў. Будзьце ў стане прыняць выклік!



**Блізняты** (22.05–21.06)

Многія сітуацыі будуць складацца як своеасаблівае выпрабаванне. Пастарайцеся з гонарам вытрымаць экзамен (яго прапануе вам Лёс) на трываласць вашых асабістых стасункаў з партнёрам і на адданасць справе. Верагодна, ад вас запатрабуецца ні ў якім выпадку не раздзяляць гэтыя паняцці.



**Рак** (22.06–23.07)

Новыя звесткі і ідэі, адэкватнае ўспрыманне якіх дапаможа рэалізацыі старых планаў. Будзьце акуратныя і асцярожныя, таму што чакаецца шэраг няпростых выпрабаванняў, негатыўных наступстваў якіх можна пазбегнуць, дзякуючы звычайнай асцярожнасці.



**Леў** (24.07–23.08)

Творчая энергія будзе біць ключом. Вынікам гэтага з'явяцца зусім нечаканыя добрыя змяненні ў самых розных сферах існавання. Часовае зніжэнне тэмпу ў Львоў-кіраўнікоў у сілу таго, што вы можаце настроіць супраць сябе калектыў. Жанчыны-Львіцы могуць апячыся "на вадзе".



**Дзева** (24.08–23.09)

Працягваецца развіццё няпростай сітуацыі ў сям'і і асабістых узаемных стасунках. Вы павінны быць актыўныя, калі трэба праявіць ініцыятыву і перайсці ў наступленне, і асцярожныя, калі ініцыятыву трэба перадаць партнёру. Такі тактычны план дазволіць пазбегнуць далейшага абвастрэння канфлікту і прынясе перадышку.



**Шалі** (24.09–23.10)

Будзе працягвацца перыяд паспяховага плавання ў інфармацыйных патоках. Магчымае значнае напружанне ва ўзаемных стасунках з калегамі і аднадумцамі, вы можаце выступіць "правакатарам" калектыўнага канфлікту.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Вы рызыкуеце элементарным чынам "зарвацца" і згубіць вельмі многае з набытага. У меншай ступені гэта тычыцца фінансаў, у большай – напрацаванага аўтарытэту. Аднак вышэйшыя сілы вам будуць дапамагаць.



**Стралец** (23.11–21.12)

Раім разабрацца ў сваіх прыярытэтах і ўзяцца за галоўныя рашэнні і справы. Магчымыя сур'ёзныя працэсы дэстабілізацыі самаадчування і арганізацыйных пытанняў, спрэчкі і канфлікты, звязаныя з дэпрэсіяй.



**Казярог** (22.12–20.01)

Ні ў якім выпадку нельга ў гэтым перыядзе ўпусціць момант аздараўлення ўнутранага жыцця. Будзьце актыўныя і прадпрымальныя, гэтаму ў вялікай ступені будзе садзейнічаць добрая фізічная форма. Не бойцеся абнаўленняў і пераменаў.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Зразумейце, група, якім бы індывідуалістам вы ні былі, заўсёды хутчэй дамагаецца мэты. Зрабіцеся на час лідэрам, паспрабуйце выкарыстаць нават чужыя вам калектывы ў сваіх інтарэсах. Тым больш, што вам цяпер спрыяюць зоркі.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Выкарыстайце ўдачу, якая садзейнічае вам, у сваіх мэтах. Патраціце на сябе выпадковыя грошы. А таксама вярніце даўгі, асабліва старыя. Шанцаванне можа доўжыцца, калі вы не спыніцеся ад радасці.



## ■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

### Дапамог



**Знаёмы студэнт БДУ распавёў гісторыю, якая здарылася з ім летась.**

У групе са знаёмым вучыўся сын выкладчыка беларускай літаратуры. Прадмет даволі цікавы, ды і маці аднагрупніка расказвала даступна, але заняткі праходзілі першай парай. Самі разумееце, што для студэнта раніца.

Аднойчы пасля нейкага свята атрымалася, што Віталіку (так завуць знаёмага) давялося весці сына выкладчыка дадому. Маці падзякавала за дапамогу, студэнт, радасны, паехаў дамоў.

– Я ў выкладчыка ў пашане, – падумаў ён.

Праз дзень Віталік здолеў прыехаць на сваю першую і ўжо апошнюю ў семестры пару беларускай літаратуры. Маці аднагрупніка выстаўляла мікра-залікі за наведванне. Віталік не хваляваўся, што ў яго толькі дэбют, але такога павароту справы не чакаў.

– Я вас першы раз бачу. Дзе вы раней былі?

Віталік не адразу зразумеў сэнс слоў выкладчыка:

– Як не бачылі? Я ж дзень таму вашага сына дамоў прывёў.

Выкладчык, вядома, добрая жанчына, але студэнта на экзамене чакала "дзяржаўная" адзнака. Потым Віталік і сам меркаваў, што мог атрымаць "выдатна", каб не доўгі язык.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Яшчэ трымаюся!

Еду ў электрычцы. Нейкае свята было, цяпер не памятаю. Ці то 1 Мая, ці то Дзень Перамогі. Машыніст забыўся выключыць гучную сувязь у вагонах, і чуваць, як у яго заплятаецца язык. З вялікай цяжкасцю ён вядзе размову па рацыі:

– Памочнік паваліўся, а я яшчэ трымаюся. Ды за пульт. Ну, дык нам далей ехаць ці не?

На наступным прыпынку свабодных месцаў у вагоне прыкметна пабольшала.

**Сямён БОНДАР.**


Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

**Рэгіянальная газета**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8190 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№47 (344) 23.11.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 22.11.2001



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**



**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»